наша свабода

№35 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 ЧЭРВЕНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Мир в борьбе за демократию

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ

**Вчера в Варшаве открылся «Всемирный форум за демократию». Он продлится до 27 июня. На первый в истории форум демократии прибыли делегации, представляющие демократических деятелей, интеллектуалов, защитников прав человека, негосударственные организации и научные институты 85 государств.**



Джордж Сорос выступает на «Всемирном форуме за демократию»

В мероприятии принимают участие такие выдающиеся личности, как Лех Валенса, Джордж Сорос, Бенджамин Барьер, Франсис Фукуяма, Сергей Ковалев, премьер-министр Польши Ежи Бузек. Из-за болезни не смог прибыть на форум президент Чехии Вацлав Гавел.

В работе форума участвуют белорусские политики – председатель БНФ Винцук Вечорка, председатель ОГП Анатолий Лебедько, координатор Хартии'97 Дмитрий Бондаренко, депутат Верховного Совета Людмила Грязнова и заместитель председателя БСДП НГ Нина Стужинская. Они провели встречи с государственным секретарем США Мадлен Олбрайт и секретарем по правам человека Гарольдом Коу. Это была первая встреча представителей белорусской оппозиции с государственным секретарем США. Во время встречи обсуждалась ситуация в Беларуси, а также отношение белорусской оппозиции к возможным парламентским выборам.

Форум проходит параллельно с международной конференцией министров иностранных дел «К сообществу демократий», а его программа переплетается с программой работы министров. Кроме рабочих встреч на пленарных заседаниях и в дискуссиях участники форума могли встретиться с министрами иностранных дел США и западноевропейских стран в неформальной обстановке.

Председатель *Freedom House* Бэтти Бао Лордтак определила цель форума: «Мы приехали из 85 государств в колыбель «Солидарности», чтобы вместе подумать над тем, как оживить зрелые демократии». А бывший премьер-министр Франции Мишель Рокар добавил: «...и как международное сообщество может укрепить молодые демократические системы».

Премьер-министр Польши Ежи Бузек в разговоре с корреспондентом «Нашей Свободы» подчеркнул важность «Всемирного форума за демократию»: «Эти две конференции, форум и конференция 100 министров иностранных дел, связаны между собой. И хорошо, что они проходят одновременно в том же месте. Польское правительство и я лично горды тем, что именно в Варшаве проходят эти два мероприятия – такие важные международные встречи в самом конце XX века. На «Всемирном форуме за демократию» представлен негосударственный сектор. Негосударственные организации действуют и развиваются и в тех государствах, где правительства не следуют демократическим нормам. И потому были приглашены делегации таких государств, как Китай, Иран, Беларусь, где нарушаются права человека и демократические принципы. И эта конференция была открыта для представителей обществ таких государств».

Отвечая на вопрос, как конкретно Польша помогает в продвижении к демократии своим ближайшим соседям, белорусам, Ежи Бузек сказал: «Польша много делает для того, чтобы содействовать развитию демократии в тех странах, где гражданское движение еще является слабым. ▶

*Окончание на стр.3*

# Стратегии вползания в Россию пришел конец

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Собрание в Минске учредителей ассоциации «Центральная Россия» в конце прошлой недели фактически провалилось. Предполагалось, что в нем будет участвовать Александр Лукашенко, его друг Юрий Лужков и более десятка других руководителей субъектов Российской Федерации. Однако ни один, ни другой, ни третьи так на этом собрании не появились.**

После безрезультатных попыток взять ельцинский Кремль и провозгласить единое государство, нынешнее руководство Беларуси приняло на вооружение стратегию вползания в Россию через ее регионы и межрегиональные объединения. Серия поездок А.Лукашенко по «матушке России» подтвердили результативность такой политики.

Из-за международной изоляции у руководителя Беларуси время на такие поездки хватало. Их результатом стали подписанные двусторонние экономические соглашения по сотрудничеству с более чем 60 регионами (из 89 существующих). Посольство Беларуси в Москве стало разрастаться своими отделениями во многих субъектах Российской Федерации, обеспечивая разносторонние интересы Минска, минуя Кремль.

Одним из инструментов влияния призвана была стать и ассоциация «Центральная Россия», куда кроме 12 российских регионов вступили и 5 белорусских – 4 области плюс Минск.

Следует вспомнить, что минское собрание ассоциации переносилось неоднократно. Официально причиной называлась президентская кампания в России. По этой же причине союзники настоятельно рекомендовали А.Лукашенко временно прекратить вояжи по российским регионам.

Но, как известно, нет ничего более постоянного, чем временное. Правда, после избрания Владимира Путина губернаторам разрешили наезжать в Минск и обсуждать с А.Лукашенко ход выполнения подписанных соглашений. И не более.

По неофициальной информации, в Кремле с должным вниманием отнеслись к некоторым высказываниям А.Лукашенко во время его беседы с интерским губернатором Владимиром Яковлевым, когда тот приезжал в Минск. В частности, хозяин призвал гостя не стесняться обсуждать помимо экономических и политические вопросы, так как две страны находятся в союзном государстве. Но если в годы правления Бориса Ельцина его губернаторы с белорусским коллегой зачастую позволяли себе высказываться по вопросам внутренней политики обеих, пусть союзных, но суверенных государств, то при новом хозяине Кремля этой практике пришел конец.

Кстати, сам президент ассоциации, губернатор Ярославской области Анатолий Лисицын констатировал, что двустороннее сотрудничество с Беларусью на региональном уровне исчерпано. Дело за политическими руководствами обеих стран. Можно предположить, что во время своего недавнего посещения Ярославля, В.Путин мог говорить с А.Лисицыным и о предстоящем минском собрании.

То, что буквально вечером в четверг стало ясно, что большинство губернаторов не приедет и поэтому А.Лукашенко не придет на это мероприятие, свидетельствует о неожиданности происшедшего для Минска. В явной растерянности находились чиновники и журналисты. Как отметило БТ, причины отмены приезда губернаторов российская сторона так и не назвала. Характерное отношение к равноправному союзнику. ▶

*Окончание на стр.3*

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

- **Упраўленне пенсійнага забеспячэння міністэрства сацыяльнай абароны Беларусі паведаміла, што ў сувязі з ростам сярэдняга заробку ў траўні памер ліпеньскіх працоўных пенсіяў падвысіцца.** Мінімальная працоўная пенсія складзе 14.407 рублёў. Максімальная пенсія для непрацуючых складзе 41.836 рублёў, а для працуючых – 30.368 рублёў.

- **У Беларусі пачала вырабляцца газавая зброя. Машынабудаўнічы акцыянернага таварыства «Орша» (Віцебская вобласць) асвоілі выпуск першай беларускай мадэлі хуткастрэльнага газавага рэвальвера ГР-95.** Адначасова з пнеўматычнымі выкідамі нервова-паралітычнага газа ён імітуе «агнястрэльныя» гукі, якія здольныя напалохаць і аднаго нападаючага, і раз'юшаны натоўп. У партфелі заказаў на ГР-95 ужо значацца адрасы сілавых структураў з Мінска і іншых гарадоў Беларусі. Набыць зброю самаабароны зможа кожны, у каго знойдуцца каля 40 тысяч рублёў, а таксама дазвол міліцыі і даведка аб псіхічным здароўі.

- **У Вайсковай акадэміі Беларусі прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы з нагоды чарговага выпуску курсантаў і слухачоў каманднa-штабнога факультэта.** Як паведаміла прэс-служба міністэрства абароны, лейтэнанцкія пагоны атрымалі 724 выпускнікі. Яны працягнуць службу ва Узброеных сілах, чыгуначных, пагранічных і ўнутраных войсках. Камандна-штабны факультэт акадэміі скончылі сёлета 82 афіцэры; трое – з залатым медалём, дванццаць атрымалі дыплом з адзнакай. Што да курсантаў, то сярод іх пяць залатых медалістаў, дыпломы з адзнакай атрымалі 40 чалавек.

- **Учора ва Украіне па падазрэнні ў крадзяжы дзяржаўных сродкаў арыштаваны дэпутат Вярхоўнай Рады Мікалай Агафонаў.** Як паведамляе агенцтва *Associated Press*, супрацоўнікі праваахоўных органаў падазраюць дэпутата ў прысваенні дзяржаўных сродкаў у памеры 24 мільёнаў долараў і незаконным вывазе капіталу з Украіны. Напярэдадні Вярхоўная Рада пазбавіла М.Агафонава дэпутацкага імунітэту. Як сцвярджаюць следчыя органы, калі той працаваў дырэктарам калгаса, то прадаваў дзяржаўныя рэсурсы за мяжу, а зробленыя такім чынам грошы пераводзіў на рахункі сваіх замежных фірмаў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 980

# Мир в борьбе за демократию

*Окончание. Начало на стр.1*

Но в то же время мы должны действовать осторожно, в соответствии с международными стандартами. И это основа нашей деятельности. Одним из важнейших факторов является пример успешной реализации демократической и экономической трансформации. Информация о том, в каких странах людям живется лучше в эпоху свободного доступа к информации, оказывает сильное воздействие на сознание людей в недемократических государствах. В том числе на сознание белорусов, наших ближайших соседей, нашего единственного соседа, где еще не созданы демократические условия».

Участники форума одну из угроз демократии видят в глобализации, которая, с одной стороны, создает все большие шансы для молодых демократий и народов, продолжающих борьбу за демократические права, но, с другой, глобализация рыночной экономики значительно опережает развитие всемирных международных организаций и создание мирового открытого общества.

По словам Джорджа Сороса, необходимо противопоставить негативным эффектам глобализации сильные международные организации. МВФ должен преобразоваться в глобальный центральный банк, а Всемирный Банк – в международное агентство развития. Открытое общество должны создавать негосударственные организации. Их возникновение не может зависеть только от воли правительств, считают участники форума. Именно общественное мнение должно определять принципы, которыми руководствуются правительства. Премьер-министр Польши Ежи Бузек однозначно заявил: «Без негосударственных организаций демократии были бы только холодными и пустыми системами». Польский министр иностранных дел Бронислав Геремек обратился к участникам форума с такими словами: «Позитивным эффектом глобализации является универсализация сочувствия». По его мнению, негосударственные организации контролируют национальные правительства, которые в своей политике часто пробуют руководствоваться «двойной моралью» и собственными интересами. Именно благодаря влиянию международного общественного мнения правительства не могут больше использовать «двойные стандарты».

Министр иностранных дел США Мадлен Олбрайт подчеркнула, что «демократия – это не только очередная форма правления. В соответствии с Международной декларацией прав человека каждый имеет право жить в демократической системе». Международные организации признают государствами, в которых существует демократическая избирательная система, 120 государств мира. Среди этих государств нет Беларуси. Однако на форуме (в отличие от конференции министров) Беларусь представлена, так же как представлены и общества других государств, которые не признаются демократическими: Китай, Иран и другие. ■

# Стратегии вползания в Россию пришел конец

*Окончание. Начало на стр.1*

Так уж совпало, что 23 июня, в пятницу, в день открытия в здании МИД Беларуси собрания «Центральной России», в Москве, на Охотном ряду, думцы поддержали В.Путина и приняли законопроект о порядке формирования верхней палаты — Совета Федерации. Губернаторы прекращают там заседать и теряют немало остальных своих прав.

И еще одно любопытное совпадение. В тот же день наместники президента в 7 федеральных округах впервые приняли участие в качестве полноправных членов в заседании Совета безопасности.

А собственно о Союзе РБ с РФ, который почему-то в государственных СМИ Беларуси уже стали именовать Союзной державой Беларуси и России, хозяин Кремля готов послушать А.Лукашенко с всеобъемлющим аналитическим докладом. 27-28 июня в Москве должно состояться заседание Высшего государственного совета Союза РБ и РФ. Очевидно, на нем и будет зафиксирован конец одной и начало другой стратегии создания единого государства. ■

# Беларускі бюджэт не дабірае сродкаў

**Алесь БЕЛЫ**

На выніках пяці месяцаў 2000 года беларускі бюджэт быў выкананы па даходах толькі на 30,5% ад гадавога плана. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас, выступаючы перад членамі Нацыянальнага сходу Беларусі.

Крыху лепей складваецца сітуацыя з напаўненнем мясцовых бюджэтаў. Па словах намесніка міністра, за пяць месяцаў яны выкананыя па даходах на 35,5%.

Адставанне з напаўненнем даходнай часткі рэспубліканскага бюджэту, па словах М.Румаса, стане падставай для перагляду дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы і скарачэння шэрагу іншых артыкулаў дзяржаўных расходаў.

Чакаецца, што ўсе гэтыя пытанні будуць разгледжаны 4 ліпеня на сумесным пасяджэнні міністэрстваў фінансаў, эканомікі і іншых зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў.

Цікава, што ўчора ў сваім публічным выступе амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан таксама прадставіў справаздачу аб выкананні бюджэту ЗША. Па яговых словах, 2000 фінансавы год для Злучаных Штатаў мусіць скончыцца з 200-мільярдным прафіцытам. Гэта значыць, што сёлета даходы амерыканскай дзяржавы на 200 мільярдаў долараў перавышаюць яговыя выдаткі. Розніца будзе накіраваная на фінансаванне медычных праграмаў.

Усяго ж, па словах Б.Клінтана, за апошнія 10 гадоў амерыканская дзяржава зарабіла 1,8 трыльёна долараў. ■



Фота IREX ProMedia

● Намеснік міністра фінансаў **Мікалай Румас** абвяшчае пра недабор сродкаў у бюджэт

# Царква ў вайсковай палатцы

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У выхадыя дні ў пасёлку Пагранічны Берастаўіцкага раёна з'явілася вайсковая палатка з праваслаўным крыжам. Гэта – часовая царква, у якой будзе правіць службу мясцовы святар айцец Іван Спасюк. У мінулую пятніцу яго выклікалі ў пасялковы савет. З Бераставіцы спецыяльна прыязджала камісія з райвыканкама, каб папярэдзіць святара пра, быццам бы, незаконнае будаўніцтва. Падставай паслужыла дашчаная падлога, зробленая на агародзе для царкоўнай палаткі і драўляны крыж, таксама пастаўлены на прысядзібным участку. Усё гэта адміністратыўныя правапарушэнні, папярэдзілі святара члены камісіі. Быў складзены пратакол. Айцец І.Спасюк, аднак, не лічыць звычайную палатку пабудовай. Проста ўлады ўсяляк супрацівяцца заснаванню ім у Пагранічным прыхода Беларускай Народнай Праваслаўнай царквы, якая існуе ў замежжы. І таму падлога ў палатцы – правапарушэнне, і хрысціянскі сімвал – крыж на сваім прыдворку – таксама правапарушэнне. У нас дзейнічае Руская праваслаўная царква, таму прыходы Беларускай царквы выклікаюць супраціў нашых прарасійскіх уладаў. ■

# Рэпрэсіі ўзнавіліся

**Паліна СЦЕПАНЕНКА**

**Як вядома, 19 чэрвеня ў Мінскім гарадскім судзе быў заслуханы прысуд па справе лідэра сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Мікалая Статкевіча (два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду на два гады) і дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Валерыя Шчукіна (год пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год).**

Абвяшчэнне прысуду арганізатарам стала нагодай для беларускіх праваахоўных органаў узгадаць пра шэраговых удзельнікаў акцыі. Нават пра тых, якія на момант затрымання былі непаўналетнімі. Але ж час ідзе – людзі растуць, набываюць грамадзянскія правы, у тым ліку найперш права на рэпрэсіі з боку ўладаў.

18 чэрвеня навучэнцу прафесійна-тэхнічнай вучэльні Новіку Аляксандру споўнілася 18 гадоў, а 21 чэрвеня яго выклікалі ў пракуратуру горада Мінска. Там хлопец даведаўся, што супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 186 КК РБ (арганізацыя альбо актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія парушаюць грамадскі парадак, караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да трох гадоў, папраўчымі работамі да двух гадоў альбо штрафам). Аляксандр Новік звярнуўся ў Праваабарончы Цэнтр «Вясна» і расказаў наступнае: «Я быў затрыманы 17 кастрычніка 1999 года на «Маршы Свабоды». Пасля гэтага, 21 кастрычніка, мяне выклікалі на камісію па справах непаўналетніх, далі штраф у памеры 1.450 рублёў. А цяпер, калі мне споўнілася 18 гадоў, супраць мяне ўзбуджаюць крымінальную справу. Пры гэтым пастанову камісіі па справах непаўналетніх адмянілі і пастанавілі вярнуць мне штраф у памеры 1.450 дэнамінаваных рублёў». 21 чэрвеня ў пракуратуры Мінска з А.Новіка ўзялі падпіску аб невыездзе. Следчы сцвярджае, што А.Новік ёсць на відэаматэрыялах па 17 кастрычніку.

Узнікае шмат пытанняў. Ці можна рэпрэсіраваць чалавека двойчы? Ці можна вяртаць штраф без індэксацыі? Наколькі такія дзеянні адпавядаюць духу ў літары законаў? Ці можна пытаць з паўналетняга за тое, што ён рабіў, не маючы поўныя гады. Ці ўсё гэта абсалютна не мае значэння для ўладаў, запаленых жаданнем «караць, караць і яшчэ раз караць!» ■

**МЫТНЯ**

# Пад дыктоўку Масквы

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**Восьмае па ліку паседжанне Савета кіраўнікоў мытных службаў Беларусі, Расіі, Казахстана, Кыргызстана і Таджыкістана прайшло на мінулым тыдні ў Брэсце. Ключавы дзень падпісання дакументаў прыпаў якраз на 22 чэрвеня. Генералы з саюза «пяцёркі» наведалі некропаль у старой крэпасці над Бугам, потым дзве гадзіны засядалі ў Брэсцкім аблвыканкаме, а вечарам адпачывалі на «царскай паляне» у Белавежскай пушчы.**

Мытнікі не вельмі жадаюць дзяліцца з грамадскасцю фактамі службовай дзейнасці. Аднак вядома, што мытныя пасты на мяжы Расіі пачалі браць 15%-ны збор з кошту тавараў, што ўвозяцца праз Беларусь з трэціх краінаў. Сярод «ахвяраў» новаўвядзення – вялікая колькасць прадукцыі беларускіх зборшчыкаў, асабліва сумесных прадпрыемстваў і кампаніяў з удзелам замежнага капіталу.

Нягледзячы на тое, што збор быў уведзены толькі ў адказ на аналагічныя захады Беларусі, несанкцыянаваны рээкспарт паспеў ужо запоўніць усю тэрыторыю Мытнага саюза. З гэтай нагоды дэлегацыя Казахстана пад кіраўніцтвам Наталлі Варанцовай унесла свой праект пратакола аб мытным кантролі за рээкспартам тавараў. І гэта быў адзіны дакумент, прапанаваны не Расіяй. Астатнія 6 былі вынесеныя на разгляд менавіта з маскоўскага партфеля.

Нічога прынцыпова новага ўсе падпісаныя пратаколы не ўтрымліваюць – асабліва для беларускіх камерсантаў, для якіх праблемы камерцыйных рэйсаў у азіяцкія краіны СНД не з'яўляюцца вельмі надзённымі. Старшыня Мытнага камітэта Расіі Міхаіл Ванін, які вёў паседжанне Савета ў Брэсце, умела «працягнуў» усе прапановы свайго ведамства. На расійскім узоры цяпер усе краіны мытнай «пяцёркі» абавязаныя дэкляраваць тавары, што перамяшчаюцца праз іхнія знешнія межы. З мэтай аблягчэння кантролю за таварнымі патокамі ўводзіцца (з падачы Расіі) адзіная метадалогія мытнай статыстыкі і 10-знакавая кодавая таварная намеклатура. Гэта значыць, што мытням астатніх краінаў давядзецца цяпер перайсці на расійскую сістэму і адмовіцца ад нацыянальных схемаў, калі многія грузы дэкляраваліся паводле тэкставага апісання. У расійскай жа мытні ўсе тавары падраздзяляюцца на 791 пазіцыю, дэталізаваную на ўзроўні 10-га знака. Зноў-такі Масква жадае атрымаць поўны кантроль на ўсёй тэрыторыі Мытнага саюза.

Беларусь хацэ і заяўляе пра сваё раўнапраўе ў саюзе «двойкі» і «пяцёркі», але насамрэч падладжваецца пад Расію. У першым квартале 2001 года толькі ў Беларусі будуць дзейнічаць адзіныя з Расіяй правілы дастаўкі тавараў пад мытным кантролем. У чацвёртым квартале 2001 года пачне працаваць адзіная аўтаматызаваная інфармацыйная сістэма Мытнага камітэта Саюза Беларусі і Расіі. Зручнае геапалітычнае становішча нашай краіны перастане быць абмежаваным нацыянальнымі межамі. Інфармацыю, якая ўсюды каштуе дорага, Расія атрымае ў якасці падарунка. Але фінансавы стан Беларусі не палепшыцца ад таго, што нашыя мытнікі будуць ведаць сітуацыю дзенебудзь за Ураламі.

Падчас сустрэчы беларускі бок надзяляў расійскім мытнікам у Брэсце куды больш увагі, чым астатнім калегам. З чыгуначнага вакзала групу расійскіх экспертаў не павезлі разам з усімі ў гатэль «Дружба», што месціцца за горадам. Расіянаў пасялілі асобна ў гатэлі аблвыканкама — «Весце» – і штодня прывозілі іх у «Дружбу», дзе быў створаны часовы офіс для рабочых паседжанняў. «Таямніца» выкрылася да крыўднага проста: таджыкі, казахі і кыргызы засталіся ў «Дружбе» без гарачай вады з-за прафілактыкі на цеплатрасе. У прэстыжнай «Весце» пры тэмпературы на вуліцы +30 з крана ліўся амаль што кіпень... ■

# Зыходзіць вёска з яснай явы

Таццяна СНІТКО

**Сесці ў любы транспартны сродак. Ад'ехаць ад Мінска кіламетраў сто. Збочыць на больш ціхую трасу. Потым – на прасёлак. Патрапіць на іншую планету на Беларусі лёгка...**

Я не люблю словазлучэння «беларуская правінцыя» пры азначэнні звычайнай вясковай глыбінкі. Беларуская правінцыя – гэта якраз-такі наш Мінск – з яго афіцыйным статусам і гэткімі ж афіцыйнымі вар'яцтвамі. Менавіта з Мінска пачынаецца Беларусь – задворкі Еўропы альбо ўскраіна імперыі, штучны спадарожнік Расіі. І чым больш «правінцыйнай» сталіца геаграфічнага цэнтра Еўропы – тым больш «глыбей», гілее, аддаляецца ад яго глыбінка.

## «Дэкарацыі»

У маёй глыбінцы ўсе сустрэчныя помнікі з мінулай восені змянілі твар.

Шахцёр на скрыжаванні з салігорскай трасай быў «залаты» – стаў «срэбны». Так бледны і стаіць.

Ленін на плошчы ў старой Вызьне – пачарнеў і падрос. Пафарбаваны ў чорны колер, помнік чарнаскураму правадыру ўзвышаецца над нізкарослымі івамі спляжанага парку. Калі расьлі тут старыя таполі, «Ілліч» здаваўся малым і шэрым.

Крыж у гонар Слуцкага збройнага чыну ў чарговы раз знік. Толькі ямінка сярод вызьненскага парку. Нібыта не ўсталёўваў яго двойчы БНФ і адзін раз «Край». Між іншым, стары парк быў амаль могілкамі: пры будаўніцтве тут знайшлі косці расстраляных.

І апошняя тутэйшая адметнасць. Гэта старыя доты. Раней іх было амаль не бачна за хмызнякамі і дрэвамі. Цяпер у голым полі яны самі кідаюцца ў вочы, стаіць гэткая цацачная «лінія Мажыно». Апусцела абкружаная каменнымі пунктамі вёска.

## Дэмаграфічная дзірка

Апусцела вёска. Звініць цішыня замест дзіцячых галасоў. Спакойна тут цяпер. Ніхто не лётае з шумам-гамам на роварах, не крадзе гарэшкі і не ўцякае ў клуб. Дый на месцы вясковага клуба – разваліны даўно. А дзе стаяла школа – хутка без археолага не знойдзеш.

Гэтым разам на пытанне «Як жыццё?» вёска не адказвае паведамленнямі пра смерці. Тыя гады тут кожны раз паміраў нехта са старых. Старыя ўносілі з сабой таямніцы з гісторыі вёскі і яе жыхароў. Калі пачалася перабудова ў СССР, ракінскія старажылы на ўсе роспыты адказвалі, што ніколі не раскажуць драматычных падрабязнасцяў калектывізацыі, жыцця ў былой памежнай зоне... Яны казалі: хай моладзь даведаецца ўсю праўду, нехта пачне помсціць. Няхай лепей жыве. Больш пытанняў ім тут без мяне ніхто не задаваў.

За мінулы год, аднак, моладзь пачала мяняцца са старымі месцамі. Вось на ўскрайку могілак – амаль свежая магіла: па афіцыйнай версіі, 22-гадовы мясцовы хлопец разбіўся ў полі на матацыкле. Сярод ягоных сваякоў ходзяць чуткі пра забойства. І труп ім доўга не хацелі аддаваць, і рэчы з месца смерці хлопца чамусьці пазнікалі, і грузавік, у які ён нібыта ўрэзаўся, больш ніхто не бачыў. Мясцовая міліцыя на пытанні маці памерлага так і не адказала, і яна ўпэўненая, што праўды ніколі не даб'ешся.

З моладзі, якая на вёсцы засталася, адны сядзяць за крадзяжы, іншыя па начах ходзяць па хатах і мяняюць злоўленую рыбу на самагон. Астатнія проста з'ехалі. Тут засталіся пустыя хаты.

## Калгаснікі і хутаране

У вёсцы Ракіні, як у частцы суседніх, гісторыя зусім не губляецца ў сівізне стагоддзяў. Тут кожны жыхар ведае, дзе раней быў ягоны лес і ладны кавалак поля, дзе зараслі ельнікам ды асіннікам катляваны ад былых хатаў на хутарох. Хутаранаў павысылалі ў Комі АССР, астатніх пад пагрозай высылкі сабралі ў калгасную вёску.

Сяляне захавалі старыя аднаасобніцкія звычкі з паправкамі на савецкі лад. Калісьці ў перадвыбарчую прэзідэнцкую кампанію гэтыя людзі пачалі някепска ставіцца да Пазьняка (а сёй-той, нягледзячы на загад старшыні калгаса аддаць голас Кебічу, каб атрымаць сена, таемна зрабіў па-свойму, і не абавязкова галасаваў за Лукашэнку). Бабулі цяпер шчыра прызнаюцца, чым жа іх кандыдат Пазьняк тады напужаў. Кажуць, нібыта на нейкай сустрэчы з ім нехта спытаў, які будзе памер пенсіі пры новай уладзе. Адказ вёска цытуе так: «Вашыя дзеці будуць так шмат зарабляць, што пенсія вам не спатрэбіцца». Усчаўся вэрхал сярод старых. «У мяне адзін сын у Расіі, другі ў турме, трэці алкаголік!» – запрычытала першай адна кабета. І цяпер на ўсе ўпіканні, што вёска давяла да вулічных пабоішчаў у сталіцы, вяскоўцы хмурнеюць і пытаюцца разгубленa: «Дык чаго ж гэты ваш Пазьняк?..»

Напярэдадні апошняга рэферэндуму ў калгасе здарылася гісторыя, ад якой у сялянаў узняўся гонар за сваю стойкасць, яны «не здаліся немцам», якія «хацелі захапіць гаспадарку». Памятаю, як людзі з абурэннем распавядалі, што немцы ўвядуць тут суцэльны прыгнёт, павыганяюць з хатаў пенсіянераў, ды іншую лухту. Патэлефанаваўшы куды трэба, я хутка наведаміла вяскоўцам, што на самой справе ў нашым урадзе працуюць спецыялісты па сельскай гаспадарцы з Нямеччыны, якія дапамагаюць рэфармаваць самыя гібеючыя калгасы. Што ёсць сумесны план па стварэнні новага завода і турыстычнай базы вакол здзічэлага маляўнічага возера ў Смалічах. Што будуць новыя працоўныя месцы, крамы, іншая інфраструктура... На слова «інфраструктура» бабкі пакрыўдзіліся. І дагэтуль яны б не далі веры, што сяляне ў Нямеччыне жывуць зусім іншым жыццём, каб сваячка адной з вясковых старых не пабывала ў гасцях у той Нямеччыне і не прывезла адтуль у вёску фотаздымкі.

## Абломкі самаўладдзя

Мае вясковыя знаёмыя больш не звяртаюцца з просьбай адвесці ў Мінск ліст самому Аляксандру Рыгоравічу. Яны вырашылі, што Рыгоравіч іхніх лістоў не чытае. Бо калі інакш, то чаму жыццё ўсё горшае?

Заробак у калгасе складае сёння мільёнаў 8–10 і добра калі выдаецца ў час. У калгасе імя Войкава (хто такі Войкаў, ніхто тут ніколі не ўяўляў) цяпер чакаюць сваіх заробкаў за сакавік. Аб плацежаздольнасці калгаса яскрава гавораць бетонныя шкілеты фермаў у цэнтральнай вёсцы гаспадаркі – Бучаціне. Яшчэ 4 гады таму яны тут лічыліся «долгостроем».

Пару гадоў таму ў Бучаціна прыйшоў новы старшыня з новымі метадамі працы. Паводле скаргаў вяскоўцаў, кіраўнік гаспадаркі ездзіць па падуладных яму тэрыторыях з дубінкай і запраса, па-свойску малоціць ёю падначаленых. Дастаецца не толькі мужыкам-трактарыстам і механізатарам. Не так даўно старшыня пакалаціў дубіналам чатырох даярак, немаладых ужо кабет. Сяляне напалоханыя. Яны прызвычаіліся, што кіраўнік калгаса на вёсцы – сам сабе цар, Бог, герой і прэзідэнт. Але раней я ніколі не чула, каб вясковыя старыя ў якасці ла-



Фота REX/PicMedia

янкі на начальства выкарыстоўвалі слова «мент». Метады загону беларусаў у светлую будучыню паўсюль аднолькавыя. Дыктатура ў краіне ў глыбінцы нікога не цікавіць і падаецца «сталічнай штучкай» – гэткай версіяй на тэму існавання жыцця на Марсе. Але мінскае самаўладдзе – што бітае люстэрка. Аскепкі яго разлецеліся па беларускай глыбінцы, паўпіваліся ў нечыя лёсы...

## Дарогі, якія мы не выбіраем

Глыбінка далёкая ад сталічных дыялогаў і маналогаў Лукашэнкі пра NATO. Глыбінцы нецікавая апазіцыя. Сяляне – гэткія ж «лукашысты», як і «пазьнякісты» ці, скажам, «чыгірысты». Яны лаяльныя да любой улады, калі гэта ўлада. Інстынкт самазахавання даводзіць гэтую лаяльнасць да мяжы абыякавасці і анархіі. Тут яна – сапраўды маці якога-ніякога, але парадку.

Глыбінцы, што праўда, часам бывае цікава, калі прэзідэнцкія выбары. Але ёй усё роўна, хто будзе чарговым прэзідэнтам. Людзі проста лічаць, што любы палітык на гэтай пасадзе, калі і не стане чарговым рабаўніком, палец аб палец не ўдарыць у рэальных клопатах пра сялянства.

Ад Брэжнева да Лукашэнкі проста на маіх вачах не збыліся многія сялянскія мары, нягледзячы на ўсе перамены ў далёкіх і высокіх уладных кабінетах. Колькі дзесяцігоддзяў запар жыхары Ракіняў марылі, што праз вёску хоць зрэдку будуць хадзіць аўтобусы, што нарэшце пракладуць тут асфальтавую дарогу, адбудуюць школу. На месцы школы пасвяцца каровы з козамі, а на дарогу ўлады вось ужо паўтагоддзя сыплюць пясок. Дасыпаліся. Няма каму больш у вёсцы марыць... ■

# Исход курортников из Крыма вызван отключениями электроэнергии

Николай СЕМЕНА (Крым)



Казалось, что нынешний сезон удался: за последнюю неделю заполняемость крымского курорта возросла с 43 до 60% и значительно превысила прошлогодний уровень (в Феодосийском курортном регионе, например, на 45%). Путевки становились дефицитом. Но начались беспорядочные отключения здравниц от электросети, которые посеяли среди отдыхающих настоящую панику. Два дня по пять часов приостанавливалось движение троллейбусов из Симферополя на Южный берег. Желание немедленно покинуть курорт и уехать домой изъявили более двух тысяч отдыхающих. Они потребовали возврата денег и компенсации морального ущерба. В связи с этим глава крымского парламента Леонид Грач заявил, что «центр проводит антикрымскую политику».

Ситуация на этой неделе сложилась действительно катастрофическая. Несколько дней подряд из-за перегрузки энергосистемы страны, связанной с похолоданием, вместо необходимых полуострову 720–730 мегаватт электроэнергии подавалось 419. Положение курортников, дожидавших тепла и солнца, усугубилось похолоданием и дождем. Из-за этого многие отдыхающие досрочно уезжают домой: например, в Алуште от путевок отказались 1.834 человека, в Судаке— 551 человек, по здравницам Керчи расторгнуто 12 договоров. Поступают жалобы из Феодосии, Евпатории, Ленино, Раздольного, Черноморского.

Неуправляемая ситуация приводила и к курьезным, и к трагическим случайностям. В Судаке электроэнергия в городке аттракционов была отключена так, что «чертово колесо» остановилось загруженное детьми, и маленькие курортники четыре (!) часа висели на страшной высоте над бездной, а внизу их родители не знали, что делать от отчаяния. Во многих здравницах смогли приготовить обед для отдыхающих только к 17 часам вечера. Из-за отключений электроэнергии в здравницы не подавалась вода, во многих были отключены очистные сооружения, что угрожало аварией...

К счастью, сейчас об этом уже можно писать в прошедшем времени. Министр курортов Крыма Александр Таряник обратился с письмом к парламенту и правительству с просьбой исправить положение с подачей электроэнергии в здравницы. Критическая ситуация стала предметом рассмотрения в правительстве и Верховной Раде Крыма. Глава правительства Сергей Куницын, который досрочно возвратился из отпуска, в ходе переговоров с правительством Украины достиг соглашения об увеличении лимита подачи электроэнергии в Крым на 200 мегаватт. Киев в первые же дни увеличил подачу энергии на 30 мегаватт, затем — на 150 мегаватт.

«Непродуманным, безответственным и безосновательным» назвал такое отношение к курортному региону со стороны энергетиков заместитель министра курортов Вячеслав Захаров. По его информации, 40% отключаемых здравниц вообще не являются должниками. «Крымэнерго» получил команду пересмотреть графики вынужденных отключений и исключить из них предприятия курортной сферы. Леонид Грач сказал, что это «настоящая диверсия» против крымского курорта.

— Катастрофически сказывается на ситуации отсутствие у правительства Украины специальной курортной политики, — считает начальник отдела курортов Крымского министерства курортов и туризма Анна Гальперина. — Можно сказать, что в эту неделю наша страна сама зарезала ту курицу, которая могла бы все лето нести ей золотые яйца...

Убытки Крыма огромны. Многие туристические организации стали требовать расторжения ранее заключенных договоров на приобретение путевок. По прикидкам, только в курортной сфере убытки уже составляют несколько миллионов гривен. ■

## Кампенсацыя за смерць на працы

**Міхась КАРПОВІЧ**

**Буйнейшая японская рэкламная кампанія *Dentsu Inc.* абвясціла, што сплаціць 1,6 мільёна доляраў кампенсацыі бацькам аднаго з сваіх супрацоўнікаў, які скончыў жыццё самагубствам ад стрэсу і празмернай працы.**

Супрацоўнік *Dentsu* Іcіра Асіма ўчыніў самагубства ў 1991 годзе. Яму было толькі 24 гады. У сярэднім ён працаваў па 80 гадзінаў у тыдзень. Даволі часта ягоны працоўны дзень пачынаўся ў 9 гадзінаў раніцы і заканчваўся ў 6 гадзінаў раніцы наступнага дня.

Вярхоўны суд Японіі вынес рашэнне пра віноўнасць кампаніі *Dentsu Inc.* у тым, што яна давяла свайго супрацоўніка да самагубства. Судовы працэс доўжыўся каля сямі гадоў, і цяпер *Dentsu* мусіць сплаціць бацькам Іcіра Асімы ў якасці кампенсацыі 168 мільёнаў йен – гэта прыкладна 1,61 мільёна долараў. У Японіі гэта першы выпадак, калі на кампанію была ўскладзеная адказнасць за самагубства яе супрацоўніка ад перастамлення на працы. Ідэалогія японскага грамадства прапагандуе поўную аддачу на працы і ставіць працу вышэй за асабістыя інтарэсы чалавека і ягонай сям'і. ■

## Расія – злосны парушальнік

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Паводле дадзеных ААН, штогод у свеце «адмываецца» больш за 600 мільярдаў долараў, якія былі атрыманыя незаконным шляхам. На мінулым тыдні камісія «вялікай сямёркі» краінаў абнародавала вынікі свайго даследавання гэтай праблемы. Камісія «ўхапіла за руку» на адмыванні крымінальных сродкаў 31 краіну, з іх 15 абвешчаныя «злоснымі парушальнікамі». На самым версе спісу – Расія. Потым ідзе Ізраіль.**



Калі маеш кампьютэр з доступам да Інтэрнэта і зусім «крыху» сродкаў, можна адкрыць уласны афшорны банк у Науру і «адмываць» праз яго грошы, атрыманыя злачынным шляхам.

Камісія па праблеме адмывання грошай (*Financial Action Task Force on Money Laundering, FATF*), у склад якой уваходзяць прадстаўнікі 26 краінаў, паведаміла, што большасць краінаў-парушальніцаў – гэта дзяржавы Карыбскага басейна, такія, як Багамскія і Кайманавыя выспы, вядомыя як «афшорны рай». На Карыбскі басейн прыпадае 10% ад усяго аб'ёму адмытых грошай – 60 мільярдаў доляраў.

Вось поўны спіс краінаў – злосных парушальніцаў (у алфавітным парадку): Багамскія выспы, Дамініканская рэспубліка, Ізраіль, Кайманавыя выспы, Ліван, Ліхтэнштэйн, Маршалавы выспы, Науру, Ніуэ, Выспы Кука, Панама, Расія, Сэнт Кітс і Нэвіс, Сэн-Вінсэнт і Грэнадзіны, Філіпіны.

Пакуль што *FATF* абмяжавалася толькі рэкамендацыямі ўрадам гэтых 15 дзяржаваў больш пільна кантраляваць міжнародныя фінансавыя патокі і правесці дасканалую праверку падазронай фінансавай дзейнасці. Аднак міністр фінансаў Францыі Ларан Фаб'юс ужо зрабіў заяву, што Францыя гатовая прымяніць жорсткія санкцыі да ўсіх краінаў-парушальніцаў і нават спыніць з імі ўсе эканамічныя стасункі.

Эксперты мяркуюць, што з'яўленне Расіі ў «чорным спісе» пацягне вельмі канкрэтныя вынікі: Міжнародны валютны фонд можа скараціць крэдытаванне занядпанай расійскай эканомікі.

Цікавае расследаванне правяла брытанская газета *Guardian*. Яна распавяла, як можна наладзіць уласны афшорны банк для адмыцця крымінальных грошай у Рэспубліцы Науру. Чаму менавіта там? Маленькая выспа на поўдні Ціхага акіяна, дзе жыве ўсяго 10.000 чалавек, стала адным з буйнейшых цэнтраў па «адмыванні» грошай расійскай мафіі. На выспе ёсць 400 афшорных банкаў, праз якія толькі ў 1998 годзе прайшло не менш за 70 мільярдаў доляраў крымінальных расійскіх грошай – у 700 разоў больш за ўвесь наурскі гадавы бюджэт.

Такім чынам, каб арганізаваць уласны афшорны банк у Науру, вам патрэбныя факсавы апарат, тэлефон, пераносны камп'ютэр (ноўтбук) і доступ да Інтэрнэта. Ну і плюс 200.000 доляраў у банку. На першым этапе неабходна знайсці праз Інтэрнет кампанію, якая б перапрадала вам ліцэнзію наурскага ўрада на вядзенне банкаўскіх аперацыяў. Такія кампаніі існуюць і даволі паспяхова знаходзяць на міжнародным рынку кліентаў на свае «паслугі».

На другім этапе трэба атрымаць даведку з паліцыі, што вы ніколі раней не затрымліваліся за крымінальныя ўчынкі, і ліст з банка, які б пацвярджаў, што вы надзейны ўкладчык. Ліст мусіць быць на імя міністра развіцця і прамысловасці Рэспублікі Науру. Вам таксама спатрэбяцца фінансавыя дакументы, якія б пацвярджалі вашу магчымасць распараджацца сумай у 200.000 доляраў.

Трэці этап – неабходна выпісаць чэк на 35.000 доляраў. Менавіта гэтую суму трэба будзе заплаціць кампаніі, якая прадасць вам ліцэнзію на адкрыццё банка. Пры гэтым ніякай фізічнай прысутнасці вашага банка ў Науру, апроч паштовай скрыні, не патрабуецца.

Ну і, нарэшце, апошні этап. Пасля даволі простай праверкі вашых дадзеных наурскімі ўладамі вы атрымліваеце ліцэнзію. За 4-6 тыдняў ваш банк арганізаваны і гатовы адмываць любыя сумы. І вам ніколі не спатрэбіцца ехаць у Науру, каб пакінуць грошы на рахунку або зняць іх – банк існуе толькі ў вашым камп'ютэры. ■

## Генерала арыштавалі ўначы

**Міхась КАРПОВІЧ**

Еўропа працягвае шукаць і караць новых ваенных злачынцаў. Брытанскія міратворцы, якія дыслакуюцца ў Босніі, арыштавалі пазаўчора 36-гадовага генерала Душка Сікірыча. Ён быў захоплены ўначы ў сваім доме ў Прыедоры на паўночным захадзе Босніі, паведаміла *BBC*.

Падчас вайны ў Босніі ў 1992 годзе Душка Сікірыч быў начальнікам канцэнтрацыйнага лагера ў Кератэрме ў прыгарадзе Прыедора. Яго абвінавачваюць у забойствах, катаваннях і сексуальных здзеках над мусульманскімі і харвацкімі палоннымі. У ягоным лагеры ўтрымліваліся больш за тры тысячы чалавек, сотні палонных загінулі.

Гаагскі Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у былой Югаславіі прад'явіў абвінавачванні Д.Сікірычу яшчэ пяць гадоў таму, аднак, як і іншыя абвінавачваемыя, ён не быў пазбаўлены права свабодна перасоўвацца па тэрыторыі Босніі. ■

## Еўропа пераходзіць на ветраныя электрастанцыі

**Ірына СТАРЦАВА**

На паўночным захадзе Вялікабрытаніі ў хуткім часе будзе пабудаваная ветраная электрастанцыя ў моры, якая зможа пастаўляць электраэнергію для 3.000 дамоў. Кошт праекта складае 6 мільёнаў долараў. Паводле ацэнак спецыялістаў, ветраныя электрастанцыі могуць выпрацоўваць дастатковую колькасць энергіі для ўнутраных мэтаў краіны, а таксама забяспечыць экспарт электраэнергіі.

Іншыя еўрапейскія краіны таксама шукаюць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. Урад Даніі, напрыклад, прагназуе, што да 2030 года палова патрэбы ў электраэнергіі будзе задавальвацца за кошт ветраных электрастанцыяў. ■

## Францыя змагаецца з сектамі

**Ірына СТАРЦАВА**

Нацыянальны сход Францыі аднагалосна прыняў законапраект пра барацьбу з рэлігійнымі сектамі, які прадугледжвае розныя захады на абароне грамадства ад таталітарных сектаў. Законапраект прадугледжвае нават крымінальнае пакаранне за «ментальныя маніпуляцыі» і судовыя працэдуры забароны сектаў, якія парушаюць дэмакратычныя асновы грамадства.

На сённяшні момант у Францыі налічваецца каля 200 сектаў. Прадстаўнікі «саенталагічнай царквы» Рона Хабарда, а таксама «царквы аб'яднання прападобнага Муна» ужо выступілі з заявамі, якія асуджаюць новы закон. Сектанты мяркуюць, што ён парушае канстытуцыйныя нормы, датычныя свабоды асобы. Цяпер законапраект пра секты мусіць быць разгледжаны верхняй палатай французскага парламента – Сенатам. ■

## Итоги саммита Кима и Кима

У нядзелю споўнілася 50 гадоў з дня пачатку Карэйскай вайны паміж Паўночнай і Паўднёвай часткамі паўвыспы.

Вайна пачалася пасля таго, як Савецкі Саюз адвёў свае войскі з Поўначы, а Злучаныя Штаты – з Поўдня Карэйскай паўвыспы. Узнік канфлікт, які потым перарос у сапраўдную вайну. У выніку баявых дзеянняў загінула, паранена або знікла без вестак 5 мільёнаў чалавек.

У сваёй прамове з нагоды выбітнай даты прэзідэнт Паўднёвай Карэі Кім Дэ Чжун назваў «вельмі аптымістычнымі» вынікі ягонай сустрэчы з лідэрам КНДР Кім Чэн Ірам, аднак зазначыў: калі варожасць у стасунках дзвюх краінаў зноў пераможа, то пры дапамозе сучаснай зброі масавага паражэння можа быць знішчаная ўся карэйская нацыя.

Калі ўлічыць, што Паўночная Карэя мае магчымасць выкарыстаць у бойцы за тэрыторыю суседкі ядзерную зброю, то перад пагрозай знішчэння можа апынуцца ўвесь кантынент.

Наступны матэрыял аналізуе вынікі гістарычнай сустрэчы паўночна- і паўднёвакарэйскага лідэраў.



Хотя официальная встреча двух Кимов продолжалась всего 27 минут, ее значимость трудно переоценить

**Биюнг-юнг Ан**

**Неужели последний ледник «холодной войны» начинает таять? Саммит президентов Южной Кореи Ким Дэ Чжуна и «дорогого руководителя» Северной Кореи Ким Чен Ира пробудил надежды с обеих сторон Корейского полуострова на то, что 55-летний период «холодной» и «горячей» войны может наконец завершиться. Поскольку Корея остается самой вооруженной «горячей точкой», а риск создания ядерного оружия и распространения боеголовок в Северной Корее остается еще очень высок, весь мир может выиграть от ослабления этой напряженной ситуации. Однако, чтобы это произошло, не только правительства обеих частей Кореи должны действовать с ответственностью и воображением.**

Визит Ким Дэ Чжуна в Северную Корею предоставил Ким Чен Иру редкую историческую возможность передать миру сообщение о том, что Северная Корея готова выйти из самосотворенной изоляции. Пожимая руки и обнимаясь так открыто и так драматично, Ким Чен Ир продемонстрировал серьезность своего намерения начать процесс нормализации политических и экономических отношений между двумя Кореями. Теплота этого приема доказала миру то, что Северная Корея действительно открыла свои двери; и это показало самому народу Северной Кореи, что его правительство готово изменить свою политику – правда, еще не ясно, каким образом, чтобы выжить в быстро глобализирующемся мире.

Оба Кима достигли принципиальной договоренности работать с целью воссоединения путем совместных усилий, независимо от внешнего влияния, и найти приемлемый компромисс между идеей Юга о Северно-Южном «сообществе», или конфедерации, и идеей Севера о «федерации низкого уровня». Они обещали помочь семьям, разделенным демилитаризированной зоной уже на протяжении полувека, встретиться и начать обмен в различных областях, включая экономическое сотрудничество. Этот процесс будут контролировать регулярные межправительственные встречи.

Хотя многое из этого выглядит как типичный теплый климат доброй воли, которым обычно завершаются все саммиты, сам факт публичного объявления о подобных намерениях обоими лидерами создал достаточную движущую силу для дальнейшего развития событий. Настоящая проверка того, насколько далеко может зайти этот процесс и как быстро, произойдет тогда, когда и если Ким Чен Ир действительно нанесет ответный визит в Сеул, как он обещал сделать «в соответствующее время».

Неужели Ким Чен Ир действительно сигнализирует о фундаментальной перемене? Готов ли он отозвать свои войска из демилитаризированной зоны и демонтировать десять тысяч артиллерийских единиц, способных добраться до Сеула? Готов ли он поддержать текущий процесс замораживания развития ядерного оружия и гарантировать, что Северная Корея не будет экспортировать, разрабатывать и развертывать баллистические ракеты? Пока существует опасность распространения ядерного оружия и ракет в Северной Корее, полуостров остается потенциальным источником конфликта. Северная и Южная Корея технически находятся в состоянии войны даже сейчас. В такой ситуации еще слишком рано говорить о выводе американских военных сил.

Начав нормализовывать отношения с Южной Кореей, Ким Чен Ир приобретает вес не только в делах с Южной Кореей, но и в переговорах с США, Японией, Китаем и Россией. Однако, если он хочет, чтобы эти начинания привели к реальному результату, он должен продолжать действовать так, чтобы преобразовать имидж Северной Кореи из «опасной страны» в «нормальное государство».

Продолжение процесса, начатого на саммите, – работа не только для двух Кимов. Первая задача, стоящая перед южнокорейским правительством, – это обеспечить участие США в решениях по политике повышения «кореизации» полуострова. Принимая во внимание появившуюся тенденцию конкуренции влияния на Корею, это может оказаться не таким уж простым делом. Жизненно важным является четкое разграничение между мирным процессом на Корейском полуострове и конкуренцией между Россией и Китаем, с одной стороны, и США – с другой, особенно во всех «горячих» вопросах по системе противоракетной обороны (ПРО), которые выдвигает Америка.

Китай и Россия тоже укрепляли свое влияние в Северной Корее. Пекин организовал секретный визит Ким Чен Ира в конце мая – возможно, чтобы уговорить его провести саммит как средство вытеснения Вашингтона с позиции главного игрока на полуострове. Российский президент В.Путин намерен посетить Пхеньян в июле, чтобы добиться поддержки своим доводам против предложенного Америкой антиракетного щита. В то время как эти две азиатские силы культивируют Ким Чен Ира, Вашингтон пытается устроить переговоры по поводу ракет с Пхеньяном, а Токио – возобновить дипломатические отношения с Севером.

Америка и Япония помогли подтолкнуть Северную Корею к переговорам с Южной Кореей. На правительстве Южной Кореи лежит обязательство информировать обе эти страны о своих усилиях, чтобы обеспечить определенный контроль над Северо-Южным примирением. Поскольку роль Китая повышается, важно, чтобы США и Китай восстановили свой стратегический диалог и сотрудничали в деле разделения вопроса о северокорейских ракетах и раздражающих вопросов противоракетной обороны. Оба Кима подтолкнули Корейский полуостров к миру ближе, чем кто-либо мог надеяться еще неделю назад. Их усилия должны найти поддержку среди других сил, заинтересованных в обеих Кореях.

**Биюнг-юнг Ан является профессором международных отношений в университете Йонсей в Сеуле (Южная Корея) и одним из ведущих стратегических мыслителей своей страны.**

**P.S.**

# Яны выратавалі Еўропу, але беларускія ўлады на іх забыліся



Спартыўная каманда ваенізаванай пажарнай часткі №2. Усе гэтыя маладыя і дужыя людзі былі ліквідатарамі. Трое з іх ужо не жывуць. П.Макаранка — другі злева. Здымак 1987 года.

**Таццяна РЭВЯКА**

**Пятру Мікалаевічу Макаранку было 25 гадоў, калі адбылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Ён разам з сям'ёй, жонкай і двухгадовым сынам, жыў у горадзе Прыпяць (у 3 кіламетрах ад ЧАЭС) і працаваў у пажарнай часцы №2 па ахове электрастанцыі. Горад Прыпяць знаходзіцца на мяжы Украіны і Беларусі, таму прыкладна 30 працэнтаў з працаваўшых пажарных былі беларусамі. На гэтых людзей і прыйшоўся першы ўдар па ліквідацыі наступстваў катастрофы, пакуль не прыбылі дадатковыя сілы – прадстаўнікі пажарнай службы Кіеўскай вобласці, Масквы.**

Адразу пасля выбуху малодшы сяржант унутранай службы П.Макаранка ўжо быў на працы і фактычна неадлучна прабыў там да 30 красавіка. Не адзін раз за гэтыя дні прыходзілася знаходзіцца за 100 метраў ад рэактара. Пятро Мікалаевіч гаворыць, што людзі, на долю якіх выпала такое выпрабаванне, разумелі, што адбылося і чым гэта пагражае. Яны ведалі, што змогуць пасля гэтага пражыць не больш за месяц, і зміртыліся. Тады здавалася, што гэта вельмі шмат, і за гэты час яшчэ шмат можна будзе зрабіць. Многія з тых, хто тады быў разам з ім, ужо памерлі. Першыя шэсць чалавек, якія атрымалі вялікую дозу апраменьвання, пахаваныя ў Маскве. Сябра Пятра Мікалаевіча, з якім у тыя дні ён працаваў разам, пахаваны ў Брагінскім раёне. Тыя ж, каму пашчасціла выжыць, — зараз цяжка хворыя.

Пасля паўгода няпэўнасці і вандравання ў кастрычніку 1986 года сям'і пажарнага П.Макаранкі і некаторым ягоным таварышам былі прадастаўленыя кватэры ў горадзе Белая Царква Кіеўскай вобласці. Але адолела настальгія па Радзіме, і праз тры гады Пятро Мікалаевіч з сям'ёй пераязджае ў Гомель, затым у Мінск, дзе працягвае працаваць па спецыяльнасці. З кожным годам стан здароўя пагаршаўся, і ў хуткім часе камісія паліклінікі МУС выявіла ў яго прыкметы інваліднасці. З органаў МУС маёра ўнутранай службы Пятра Макаранку, які ў той час займаў пасаду начальніка пажарнай часткі №18 Фрунзенскага раёна Мінска, у 1999 годзе звольнілі па стану здароўя. І вось тут пачалі адбывацца дзіўныя рэчы – калі раней у яго была выяўленая прычынная сувязь захворванняў з радыяцыяй, то па сённяшніх законах яна стала лічыцца несапраўднай.

У 1991 годзе ў Рэспубліцы Беларусь быў прыняты Закон «Аб грамадзянах, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС», згодна з якім гэтай катэгорыі людзей прадстаўляліся пэўныя льготы, кваліфікаванае лячэнне, праводзілася рэабілітацыя іх здароўя. Але паступова льготы пачалі ўразаць, а з прыходам да ўлады А.Лукашэнкі іх практычна не засталося. І самае галоўнае – гэта адсутнасць медыцынскай дапамогі, лячэння тых, хто найбольшым чынам пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС. Пятро Мікалаевіч гаворыць, што ён зараз не мае сродкаў на лячэнне. Пенсія – 40 умоўных адзінак, а мінімум для разавага лячэння – 200 долараў. Ягоны сын таксама мае шэраг захворванняў, і калі да 18 гадоў яму бясплатнае лячэнне гарантаванае, дык далей закон нічога не прадугледжвае. У жонкі выяўленыя анкалагічныя захворванні, была праведзеная аперацыя па выдаленні шчытавіднай залозы. Ёй неабходная пастаянная медыцынская дапамога, але сродкаў на набыццё лекаў, якія патрабуюцца, каб не ўтвараліся злаякасныя пухліны, няма. Да таго ж, каб выжыць, неабходна харчавацца па медыцынскіх нормах, але сёння гэта не пад сілу многім беларускім сем'ям. Дзяржава кінула гэтых людзей: паратунку ад сваіх бедаў яны павінны шукаць самі.

Такая рэчаіснасць. І калі А.Лукашэнка ў дні гадавінаў Чарнобыльскай катастрофы падарожнічае па забруджаных радыяцыяй тэрыторыях Беларусі, дэманструючы спачуванне, — гэта дэманстрацыя, гэта не ўдзел у лёсах людзей, некалі ахвяраваўшых сваімі жыццямі і здароўем дзеля выратавання будучыні. Зараз, праз 14 гадоў пасля трагедыі, гэтыя людзі вымушаныя прасіць дапамогі дзеля таго, каб выжыць. Страціўшы надзею атрымаць дапамогу ад уласнай дзяржавы, яны звяртаюцца да сусветнай супольнасці. Як, прыкладам, гэта зрабіў ліквідатар Чарнобыльскай катастрофы П.М.Макаранка. ■

**Па матэрыялах Праваабарончага Цэнтра «Вясна»**

**КНГ АБСЕ ў Беларусі**
**Прадстаўніцтва ААН у Беларусі**
**Амбасады ЗША, Германіі, Польшчы, Чэхіі, Францыі, Вялікабрытаніі**

**Грамадзяніна Рэспублікі Беларусь**
**Макаранкі Пятра Мікалаевіча,**
**Маёра ўнутранай службы,**
**Былога пажарнага па ахове Чарнобыльскай АЭС**

## ЗВАРОТ

*Я хачу звярнуць увагу кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь і ўсёй сусветнай супольнасці на праблемы Чарнобыльскай АЭС.*

*Прайшло дастаткова часу з той страшнай ночы 26 красавіка 1986 года – 14 гадоў. Гэты тэрмін дазволіў глыбей асэнсаваць тое, што выявіў чарнобыльскі выбух у нашых магчымасцях – эканамічных, тэхнічных, медыцынскіх, арганізацыйных, нарэшце – чалавечых. Што здавалася галоўным тады для ўсёй сусветнай супольнасці, зараз згубіла вастрыню, сышло ў цень, але яно засталося з намі назаўсёды – з тымі, хто прымаў удзел у мерапрыемствах па ліквідацыі аварыі.*

*Аварыя на ЧАЭС па сваіх маштабах беспрэцэдэнтная. Выкінутая пры выбуху радыяцыйнасць была зарэгістраваная ва ўсіх краінах паўночнага паўшар'я і павялічыла радыяцыйны фон, у тым ліку і на тэрыторыі Еўропы.*

*Медыцынскія дадзеныя былі і застаюцца дзяржаўнай таямніцай. У 1986 годзе гэта прывяло да дзяржаўнага злачынства: спачатку вывозілі ці эвакуіравалі жывёлу, а потым людзей. План мясанарыхтоўкі быў больш важным.*

*Трагедыя Чарнобыля – гэта трагедыя свядомасці. Таму і назіраецца абыякавасць да праблемаў людзей, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, з боку прэзідэнта РБ і іншых дзяржаўных структураў. А.Р.Лукашэнка неадназразова, прытым супрацьзаконна, уносіў змены і дапаўненні ў Закон «Аб грамадзянах, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС». Некаторыя ягоныя рашэнні Канстытуцыйны суд РБ адмяніў, але гэта не бярэцца да ўвагі міністэрствамі і ведамствамі, што стварае нямала праблемаў усім...*

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка сваімі валявымі рашэннямі практычна пазбавіў усіх ільготаў ліквідатараў і грамадзянаў, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС. Тыя мінімальныя льготы, якія засталіся, — засталіся толькі на паперы, напрыклад, забеспячэнне харчаваннем па медыцынскіх нормах ці бясплатнае медыцынскае лячэнне. Ліквідатары, многія з якіх глядзелі смерці ў вочы, коштам свайго жыцця і здароўя выратавалі сотні тысяч жыццяў на зямлі, захавалі здароўе і дабрабыт мільёнам людзей. 28 красавіка 1988 года група пажарных, у тым ліку і я, сустракаліся з акадэмікам Легасавым, які тады ўзначаліў урадавую камісію СССР. Акадэмік Легасаў нам сказаў, што пажарныя выратавалі Еўропу. А сёння ліквідатары і пацярпелыя спрабуюць дабіцца нейкіх правоў і льготаў. Гэтым яны дабіваюцца «права на жыццё». Няўжо гэтыя бязвінныя людзі не заслужылі міласэрнасці і дапамогі?*

*Раней 20% Рэспубліканскага бюджэту ішло на ліквідацыю наступстваў аварыі на ЧАЭС, сёння – прыкладна 5%. Куды ж дзяюцца 15% пры «урастаючай вытворчасці», але падаючым узроўні жыцця? Ідуць, відаць, на ўтрыманне ваенная магутнасці рэжыму альбо на будаўніцтва і ўтрыманне «лядовых палацаў», якія будуюцца на працягу года, у той час як бальніцу ў г.Гомелі для лячэння і рэабілітацыі пацярпелых будуюць больш за 10 гадоў.*

*Чарнобыль – вельмі грозная і яшчэ нязведаная да канца з'ява, каб можна было лёгка пераступіць праз яго, аддаць забыццю, як хочацца некаторым. Ён непадуладны часовай уладзе асобных службовых асобаў. Няма ніякага сумневу, што яшчэ будуць названыя імёны тых, хто прымаў рашэнні аб заблакаванні чарнобыльскіх праграмаў, хто імкнуўся ўтаіць наступствы Чарнобыля, хто нясе адказнасць за людзей, якія жывуць на забруджанай зямлі, па чыёй віне захворваюць дзеці і заўчасна сыходзяць з жыцця людзі. Калі не людскім судом, то судом Божым, судом гісторыі яны будуць сурова пакараныя.*

*Я хачу прывесці некалькі прыкладаў па сваёй сям'і, якая была эвакуіраваная з г.Прыпяць, што ў 10-кіламетровай зоне ЧАЭС.*

*З траўня 1991 года, згодна з Законам РБ, у сувязі з тым, што я працаваў у 10-кіламетровай зоне і часткова страціў працаздольнасць, мне было выдадзенае пасведчанне ліквідатара: серыя А №283313, артыкул 18 УУС Гомельскага аблвыканкама. Калі я звярнуўся ў паліклініку МУС РБ у 1993 годзе, кіраўніцтвам паліклінікі мне было заяўлена, што я незаконна карыстаюся льготамі. Тады я звярнуўся ў Дзяржкамчарнобыль з просьбай растлумачыць мне дадзенае пытанне. Атрымаў пісьмовы адказ, што я маю права на льготы па артыкуле 18 і што закон зваротнай сілы не мае.*

*Далей мяне выклікалі ў аддзел кадраў МУС РБ і абвінавацілі ў падробцы пасведчання, пра што сведчыць ліст УУС Гомельскага аблвыканкама, дзе было сказана, што такое пасведчанне не выдавалася. Я звярнуўся ў навукова-даследчыцкі інстытут крыміналогіі РБ, каб даследаваць маё пасведчанне. Мне быў дадзены станоўчы адказ. Кіраўніцтва аддзела кадраў МУС РБ неадназразова супрацьзаконна адбірала маё пасведчанне, пра што сведчаць пацвярджальныя дакументы. 16 красавіка 1996 года (Пратакол №6) Камісія МУС РБ у мяне ўсё ж канфіскавала пасведчанне з артыкулам 18 і ўзамен мне выдалі пасведчанне з артыкулам 19. На глебе вышэйназванага ў мяне ўзніклі праблемы на службе і ў жыцці. Згодна з заключэннем ад 16.10.1991 г. Рэспубліканскага міжведамаснага экспертнага савета, мае захворванні былі звязаныя з працай па ліквідацыі аварыі на ЧАЭС, але пасля сыходу на пенсію ў 1999 годзе па стану здароўя, мае захворванні перасталі звязваць з гэтым, спасылаючыся на розныя інструкцыі. Па рашэнні ВКК № 273 паліклінікі МУС РБ мяне накіравалі на МРЭК РБ, бо ў мяне былі выяўленыя прыкметы інваліднасці, але мне далі адмоўны адказ. Вось і атрымліваецца, што пры сённяшняй уладзе і дзеючых законах чалавеку, які страціў здароўе пры выкананні службовых абавязкаў па ліквідацыі аварыі на ЧАЭС, не дадзена ніякай кампенсацыі за страчанае здароўе і скарочанае жыццё.*

*Мая жонка, Макаранка Н.П., якая была эвакуіраваная з 5-кіламетровай зоны ЧАЭС, мае шэраг анкалагічных захворванняў, перанесла аперацыю. Яе захворванні звязаныя Міжведамасным экспертным саветам з аварыяй на ЧАЭС, але яна не мае па дзеючым заканадаўстве права на бясплатнае медыцынскае лячэнне (дзеці да 18 гадоў з такімі захворваннямі прыроўніваюцца да інвалідаў ЧАЭС).*

*Японія, ЗША, еўрапейскія краіны і грамадскія арганізацыі аказваюць фінансавую і гуманітарную дапамогу Рэспубліцы Беларусь дзеля ліквідацыі наступстваў аварыі, а куды дапамога ідзе – невядома.*

*Я думаю, што маю маральнае права, каб выжыць мне і маёй сям'і, прасіць дапамогі ў кіраўнікоў названых мной краінаў, а таксама звяртаюся да калегаў-пажарных гэтых дзяржаваў. Акажыце, калі ласка, канкрэтную дапамогу канкрэтнай сям'і, Бог вам адплаціць.*

КНІГАРНЯ

# Рэальнасць, лепшая за міф

Павел ЖАЎНА

**Алесь Краўцэвіч. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мінск. «Беларуская навука», 1998.**




Сёння даволі проста ўявіць, што 10 гадоў таму назад савецкія ўлады вялі барацьбу супраць нашага старажытнага дзяржаўнага герба «Пагоня». Бо і цяперашняя ўлада змагаецца супраць, жадаючы здаць родную краіну пад крыло расійскага арла. Таму праблематыка ўтварэння ВКЛ, змест дзяржавы, яе этнічны склад самым цесным чынам злучаныя з сённяшняй ідэалогіяй. Ёсць шэраг пытанняў, на якія рэагуюць у першую чаргу менавіта палітыкі і ідэолагі Расіі, Літвы і, зразумела, Беларусі. Амаль па ўсіх галоўных пытаннях яны выказваюць супрацьлеглыя меркаванні. Прыкладам, расійскія гісторыкі традыцыйна адмаўляюць існаванне беларускай дзяржаўнасці, а ў бясспрэчных выпадках замяняюць тэрміны «беларусы» на «рускія». Скажам, пры гаворцы пра перамогу над крыжакамі пад Грунвальдам у расійскай гісторыяграфіі пісалі (і пішуць) «руска-літоўскія палкі». Такой жа арыентацыі трымаліся і працягваюць трымацца ўсе нашыя прарасійскія ўлады савецкага часу і сённяшнія. Па нейкіх падставах яны мусяць думаць, што дзяржаўнасць Беларусі пачынаецца з іх (гэта значыць, з бальшавікоў у 1919 годзе). Такі падыход цалкам адмаўляе папярэднюю гісторыю, перарабляючы беларусаў у непаўнавартасны народ. Міфы пра захоп літоўскімі князямі «адвечных рускіх земель» (!!!) створаны для апраўдання захопу Беларусі і Літвы Рускай дзяржавай, па-ранейшаму хто наўмысна, а хто аўтаматам паўтараюць мноства выкладчыкаў у школах і ў інстытутах.

Нашыя беларускія даследаванні да нядаўняга часу грунтаваліся не гэтак на неаспрэчным навуковым матэрыяле, як бальшынёй на інтэрпрэтацыях летапісных паведамленняў. Прыкладам, такімі былі папулярныя работы Міколы Ермаловіча.

Даследаванне гісторыка і археолага Алеся Краўцэвіча — адно з найноўшых па гэтай важнай тэме. Як гэта ні дзіўна, яно не атрымала той увагі, якой заслугоўвае. Магчыма таму, што абвяргае простыя ці цалкам наверныя пабудовы навукоўцаў, і атрымоўваецца, што лепш «замаўчаць», чым весці палеміку ці пагадзіцца. «Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага» грунтуецца на фундаментальным археалагічным, пісьмовым, лінгвістычным матэрыяле. Кніга пераканаўча асвятляе працэс утварэння ВКЛ з самага ранняга этапа, з 1248 года, калі Навагрудак запрасіў на княжанне літоўскага князя Міндоўга.

Праца Краўцэвіча здымае шэраг цьмяных пытанняў пра старажытную Літву, Русь, ролю славянаў і ролю балтаў? Разглядаючы этнічную гісторыю тагачаснага ВКЛ (Беларусі і Летувы), аўтар выдзяляе «кантактную зону», у якой адбываліся ўзаемазначныя ўплывовыя балта-славянскія стасункі і кантакты, склалася адзінства культуры, мэтаў, роднасныя сувязі і якая сталася першапачатковым ядром новай дзяржавы, вядомай як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае. Гэтая зона — абшар шырынёй у 200 вёрст (дзе меней, дзе болей), які цягнецца ад Падляшша праз усю Беларусь і Літву ў бок Полацка і які абдымаў ці закранаў землі яцвягаў, дайновы, аукштайтаў (летувісаў), нальшчы, дзяволтвы, крывічоў і дрыгавічоў. Гэта тут асяродкамі былі гарады Гародня, Ваўкавыск, Слонім, Навагрудак, Ліда, Трокі, Вільня, Меднікі, Крэва, Ашмяны, Вілейка, Маладзечна, Браслаў.

Дарэчы, аўтар абвяргае ўсе штучна створаныя ідэалагічныя казкі пра захопы славянскіх земель балцкімі плямёнамі і міфы адваротнага зместу пра заваёўніцкія паходы славянаў гэтага рэгіёна на балтаў. Эпізадычныя, па сутнасці, рабаўнічыя наезды не маглі адбіцца на гісторыі гэтага рэгіёна, няма ніводнага сведчання пра захопы і падпарадкаванні земель і гарадоў з боку тутэйшых славянаў ці балтаў. Гэта вельмі важны момант, ён тлумачыць, чаму ВКЛ менавіта пачало складацца ў 12 стагоддзі, а не раней ці пазней. Бо напачатку 12 стагоддзя ў Рызе з'явіліся крыжакі, а з 1240 года пачаўся ўціск татараў, і перад гэтай пагрозай патрабавалася дзяржаўнае ўтварэнне, больш магутнае, чым асобныя ўдзельныя княствы папярэдняга часу. Што і было выканана на працягу ўсяго паўстагоддзя. Для дзяржаўнай гісторыі — гэта, на дзіва, невялікі тэрмін. Ён азначае, што існавалі ўсе неабходныя ўмовы — блізкасць культураў, адзіная мова, якая стала дзяржаўнай, традыцыя стасункаў, сумесных ваенных паходаў супраць іншых суседзяў. Ужо пры Гедыміне ВКЛ становіцца настолькі магутнай дзяржавай, што да яе пачынаюць далучацца суседнія славянскія і балцкія рэгіёны, каб мець абарону.

Нашай гістарычнай навуцы даўно бракавала такога аб'ектыўнага даследавання. Кніга прыняссе карысць кожнаму, хто хоча ведаць сапраўдную гісторыю роднай даўніны. Хто можа ганарыцца роднай старажытнасцю без казачнай афарбоўкі яе сюжэтаў. Беларуская гісторыя сама па сабе, без штучнай аздобы абкружана міфам пошуку праўды і месца нашага народа ў гісторыі. Нам доўга не давалі гэта зрабіць. Кніга Алеся Краўцэвіча дапамагае мець добры гістарычны позірк. ■

# «Черная дыра» для мерседеса «Брабус»

## Машина стоимостью 550 тысяч марок таинственно исчезла в пущах Полесья

Людмила ГУЛЯКЕВИЧ,
Варшава

**Белорусский преступный мир не перестает проявлять интерес к «польскому рынку». Несколько лет назад громким эхом по всей Польше отозвалась «война» между польскими и белорусскими преступными группировками за контроль на Гожельцем, городком на границе с Германией, где процветает торговля пригнанными из-за западной границы автомобилями. Но главное поле действия белорусской мафии – это польско-белорусская граница. Способствует «процветанию» криминального «бизнеса» и коррупция среди пограничников и таможенников.**

Сейчас в Польше ведется следствие о связях полицейских и пограничников из Бяла-Подляски с белорусскими криминальными кругами. «Раскрутить» преступные связи помогла история уникального «мерседеса». Мерседес был изготовлен по спецзаказу. Это так называемый мерседес «Брабус», с улучшенным двигателем, пуленепробиваемыми стеклами, эксклюзивным салоном (например, сидения «достраивались» до формы тела конкретного человека). Стоимость его – 550 тысяч немецких марок. Машина была подарком швейцарской фирмы *Mabetexs*, замешанной в скандальную историю с контрактами на ремонтные работы в Кремле стоимостью в сотни миллионов долларов (в эту аферу, как известно, замешаны высокие кремлевские лица), одной московской строительной фирме, которая тесно сотрудничала со швейцарцами. Как полагает польский журнал *Wprost*, конечным получателем «подарка» были скорее всего политические опекуны этой фирмы. Перегонял «мерседес» из Германии в Москву российский гражданин Константин С. На границе с Беларусью его задержала полиция, пожелавшая проверить номер двигателя; затем автомобиль отогнали на полицейскую стоянку для более тщательной проверки. Подозрительно уже то, что проверку начала полиция, поскольку на пограничном переходе автомобиль был бы тщательно проверен пограничниками и таможенниками.




Помощь водителю в «освобождении» «Брабуса» тут же предложили два белоруса, проживающие в Бяла-Подляске. Россиянин, который не знал польского, с радостью согласился на услуги «земляков», не задумываясь, как они вышли на него и откуда узнали о его проблемах. Как выяснилось позже, один из белорусов, Сергей К., отбыл срок в тюрьме в Белостоке. Благодаря сотрудничеству с белорусской милицией удалось установить личность второго из преступников, Сергея Г., который разыскивается за вымогательство и разбой в Беларуси. Эти люди основательно обосновались в Бяла-Подляске, где, похоже, участвовали в краже автомобилей и торговле наркотиками.

При помощи новых «друзей» Константин С. вновь увидел «мерседес», однако его радость длилась не долго. По дороге к границе «друзья» вынудили его отдать ключи от машины. Мерседес «Брабус» с новыми владельцами (хотя у них не было документов на перевоз автомобиля) пересек границу в Тересполе и исчез в неизвестном направлении. Ни полиции, ни польскому комитету по охране государства, ни московской строительной фирме с ее обширными связями не удалось отыскать следы пропавшей эксклюзивной машины. (Говорят, что в России есть только еще один такой «мерседес»).

Польские службы арестовали Сергея Г., а также полицейских и пограничников, в отношении которых возникли подозрения об участии в похищении и транспортировке за границу дорогих автомобилей. Один из полицейских, занимавший должность заместителя начальника уголовного отдела городской комендатуры полиции в Бяла-Подляске, был до ареста на хорошем счету, отличался высокой раскрываемостью преступлений. Оказалось, что за «результатами» стояли связи с преступными группировками, которые платили за «услуги» полицейского «утечкой информации».

История с «Брабусом» изумила даже видавших многое польских полицейских: «Интересно, знали ли белорусы, чей автомобиль похищают? То ли они были так глупы, то ли так отважны?» В связи с этой историей можно задать также вопрос: «А почему белорусские службы не помешали преступникам в перегоне эксклюзивного автомобиля без соответствующих документов? И понесет ли кто-либо из белорусских пограничников и таможенников наказание за недобросовестность?» ■

# Путинская диктатура закона начинается незаконно

Ричард ПАЙПС,
профессор истории в Гарвардском университете, автор монографии «Россия под старым режимом»





Во время визита Владимира Путина в Татарстан в минувшую субботу он не избегал любыми способами показать свою близость народам России: примерить татарскую тюбетейку или даже окунуться лицом в чан с ряженкой в поисках пятирублевой монеты

На протяжении практически всей истории России было чуждо понятие закона как принципа, связующего правящих с управляемыми. До начала 20-го столетия у царей не было легальных сдерживающих факторов, наподобие тех, что ограничивали абсолютизм в монархиях Западной Европы. Им не нужно было уважать частную собственность на землю, поскольку до 1785 года именно они владели всей землей. Им не нужно было отдавать честь правам дворянства, поскольку до самой середины восемнадцатого столетия все дворяне были их подчиненными. Первый свод законов России был введен в 1830-х годах, а первый более-менее независимый суд появился в 1860-х.

Закон конечно существовал, но он служил не для защиты людей от произвольного правления правительства, а наоборот, был инструментом правления.

Поэтому, традиции законности в России были очень слабыми в тот момент, когда к власти пришли большевики. Семь десятилетий их диктатуры уничтожили зачатки законного общества.

Президент Путин заявил, что в современной России «диктатором» будет закон. Но определенные доказательства свидетельствуют, что он воспринимает закон в традиционном российском стиле, т. е. не как принцип, равноправно связывающий государство и его жителей, но как инструмент, с помощью которого государство добивается своих собственных интересов.

Это иллюстрирует, например, попытка Путина накинуть вожжи на губернаторов регионов России. За последнее десятилетие эти избранные народом официальные лица приобрели власть феодальных баронов и в некоторых случаях действовали с грубым нарушением конституции. Чтобы их приструнить, Путин назначил семь чиновников (в основном бывших генералов и служащих КГБ) своими представителями в регионах. Объявляя об этом шаге, Путин зловеще добавил, что он «уволит» тех губернаторов, в действиях которых будут обнаружены нарушения закона. Это заявление отражает менталитет, ставящий власть превыше закона.

Другим примером может стать недавнее неподчинение Москвы трибуналу военных преступлений ООН во время недавнего визита в Россию югославского министра обороны Драголюба Ойданича. Год назад установленный с согласия Москвы трибунал в Гааге обвинил Ойданича в преступлениях против человечества в Косово. Как член Совета Безопасности ООН Россия была обязана его арестовать. Вместо этого к нему отнеслись как к официальному гостю, организовав для него встречи с министром обороны России.

Проблема состоит в том, что Владимир Путин прослужил много лет в КГБ и до сих пор окружает себя ветеранами этой организации, института, чьей главной внутренней задачей было подавление несогласных. Такое прошлое сложно забыть, особенно если новой миссией является установление «сильного государства». Ничего хорошего это для России не предвещает, ей еще предстоит узнать, что политическая сила возникает не за счет ущемления гражданских прав населения, а за счет создания баланса взаимных интересов между правительством и народом путем строгого соблюдения закона. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1785 Нумар падпісаны ў друк 26/06/2000 (15:00) Наклад – 8.980